


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 11 (236) ЛІПЕНЬ 2017 ГОДА

**БЕЛАРУСКІЯ АФАРЫЗМЫ**

***Забілі зайца, не забілі, але ж, брат, гуку нарабілі***

*Якуб Колас "Новая зямля"*

ЭКАЛОГІЯ

# 100% ЗМАГАННЕ З БАРШЧЭЎНІКАМ НА ПАПЕРЫ

**Галоўны спецыяліст абласнога камітэта прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Генадзь Гарланаў паведаміў, што ў Бешанковіцкім, Верхнядзвінскім, Глыбоцкім, Гарадоцкім, Докшыцкім, Дубровенскім, Лепельскім, Лёзненскім, Мёрскім, Аршанскім, Полацкім, Пастаўскім, Талачынскім, Чашніцкім, Шаркаўшчынскім і Шумілінскім раёнах комплекс работ (першае скошванне, хімапрацоўку, пераворка) выкананы на 100% плошчы. Але адносна Гарадоцкага раёна гэтая інфармацыя з'яўляецца хлуслівай.**

На гэтым тыдні дзяржаўныя СМІ распаўсюдзілі інфармацыю аб "пераможнай" дзейнасці ў 16 раёнах Віцебскай вобласці па знішчэнню баршчэўніка. Але калі б баршчэўнік Сасноўскага мог бы смяяцца ў Гарадоцкім раёне, то смяяўся бы да гэтага часу над пустым рапартам пра яго першае скошванне, хімапрацоўку, пераворванне на 100% плошчы.

Такія пустыя рапарты з'яўляюцца ў экалагаў для СМІ не першы год. Толькі зялёны монстр сваю плошчу не змяншае, а павялічвае. Афіцыйна пра гэта было заяўлена ў гэтым годзе, калі прызналі, што баршчэўнік Сасноўскага павялічыў плошчы з 1500 га да 2100 га на Віцебшчыне, а ў Гарадоцкім раёне з 160 га да 250..

Але мяркую, што гэта не праўдзівыя лічбы пра яго распаўсюд праз дзесяцігоддзе "бюджэтнага" змагання. Такое ўражанне склалася пасля вандроўкі па бліжэйшых ваколіцах каля Гарадка, дзе па ранейшаму вальготна адчувае сябе зялёны монстр пры яго "100%" скошванні, хімапрацоўцы і г.д.

Для пачатку агляда наведаў месца каля Гарадоцкай РЭС у цэнтральнай частцы Гарадка, дзе раней былі суквецці баршчэўніка. На сёння ў гэтым месцы баршчэўнік скошаны, але ні слядоў хімапрацоўкі, ні слядоў пераворвання няма.

На выездзе з Гарадка ў накірунку хамякоўскага кальца баршчэўнік з аднаго боку канавы скошаны і бачны сляды хімапрацоўцы па зжаўцелых лісцях.

І гэтыя пазітыўныя ўражанні пра змаганне з баршчэўнікам на Гарадоччыне скончыліся. Ужо на першых сотнях метраў у межанскім накірунку паабапал дарогі вальготна адчуваюць сябе калоніі баршчэўніка. Дарожнікі скасілі траву і асобным расліны баршчэўніка толькі на адлегласці 2 м ад асфальтавага пакрыцця. А далей уздоўж межанскай трасы баршчэўніка ўсё больш і больш.

Адкрыццём новых плантацый зялёнага монстра стала наведванне вёскі Новы Болецк, дзе яшчэ чатыры гады асабліва баршчэўнік і не назіраўся. На сёння ж ён займае мусіць больш 50 га, як у вёсцы так і яе ваколіцах. Баршчэўнік падступае да дамоў, цягнецца ўздоўж ліній электраперадач. І з кожнай расліны на наступны год можа да 100 тысяч семян перанесціся на новыя тэрыторыі, дзе могуць і далей даваць усходы на працягу дзесяці гадоў.

Такая ж сумная карціна была бачна і на яго гарадоцкай радзіме ў в. Паўловічы, якую пакінулі апошнія жыхары і засталося некалькі дамоў для дачнікаў. Па вуліцы ў Паўловічах пануе баршчэўнік, які ўсё бліжэй падыходзіць да дачных дамоў.

Захапіў баршчэўнік і ўсе ускрайкі палёў вакол Паловічаў. Яшчэ земляробы апрацоўваюць навакольныя палі, але калі іх баршчэўнік стаіць сцяной, як у джунглях.

Відавочна, што існуючы землекарыстальнікі ў Гарадоцкім раёне не здольны весці працу па змяншэнню яго плошчаў. Мясцовыя жыхары распавялі, што і далей за іх мясцовасць ўсё большую тэрыторыю захоплівае баршчэўнік. І выдадзеныя па стану на 19 ліпеня 1721 прадпісанне, ды прыцягненне да адміністрацыйнай адказнасці 147 фізічных і юрыдычных асоб з агульнай сумай штрафаў больш 14,1 тыс. руб. гэта не паратунак у змаганні з баршчэўнікам.

Пакуль штогод на Віцебшчыне будуць бравурна рапартаваць пра 100% скошванне баршчэўніка ён будзе толькі "смяяцца" з віцебскіх уладаў і пашыраць свае плошчы на поўначы Беларусі. І хутка пры "папяровым" змаганні яго тут будзе ўсе 100% ад плошчаў у краіне, а не 70% як зараз.

**Леанід Гаравы**

**ЗНАЧНА БОЛЬШ НАВІНАЎ ПРА ГАРАДОК НА HARADOK.INFO**

КАДРАВАЕ ПЫТАННЕ

# ЗАМАЦАВАЦЬ КАРОЎ ЗА АДКАЗНЫМІ ЖЫХАРАМІ…

**На кадравым дні ў старшыні Віцебскага аблвыканкама Мікалаі Шарстнёве адбыліся прызначэнні новых кіраўнікоў ААТ «Віцебскаблаўтатранс», УП ЖКГ Шумілінскага раёна, Віцебскай філіі Беларускай дзяржаўнай акадэміі сувязі, а таксама прадоўжаны кантракты з Ганнай Норкум дырэктарам Віцебскай бройлернай фабрыкі, Людмілай Усеваладавай — дырэктарам КУСГП імя Дзімітрава і іншымі кіраўнікамі.**

Перагледзець падыходы ў арганізацыі сельгасвытворчасці даручана дырэктару КУСГП імя Дзімітрава Гарадоцкага раёна Людміле Ўсеваладавай.

— Трэба дзейнічаць на апярэджанне, — лічыць Мікалай Мікалаевіч. — Працаваць, як раней, нельга. У Гарадоцкім раёне цяжкія глебы, палі ў гаспадарцы раскіданыя, людзей для працы на фермах не хапае, даіць кароў няма каму. Патрэбен цалкам новы падыход. Напрыклад, магчымы варыянт — замацаваць кароў за адказнымі жыхарамі, а гаспадарцы — развіваць эфектыўнае раслінаводства.

Падоўжаны кантракт з генеральным дырэктарам ААТ «Віцебская бройлерная птушкафабрыка» Ганнай Норкус, якая расказала, што прадпрыемства сёння ўваходзіць у тройку лідэраў па атрыманні чыстага прыбытку ў сваёй галіны ў рэспубліцы, яму ўдаецца трымаць планку лепшага па прыбаўленні, захаванасці куранят, вытворчасці кармоў. У кіраўніка — свая стратэгія развіцця: тут рыхтуюцца стварыць сумеснае беларуска-кітайскае прадпрыемства (на тэрыторыі Кітая) па выпуску далікатэснай прадукцыі, ёсць дакладнае разуменне, што ў рынкавых умовах вырабіць прасцей, чым прадаць.

Мікалай Шарстнёў звярнуўся да тэмы арганізацыі работы ў вёсцы. Бо вытворчасць бройлераў пачынаецца з вырошчвання збожжа на палях. Дата гожна базе фабрыкі ствараецца аграхолдынг, пастаўлена задача — забяспечыць яго тэхнікай для эфектыўнай працы на зямлі. — Вам неабходна вырабляць 60-80 тысяч тон ўласнага збожжа па мінімальным кошце, — кажа губернатар, — так як у структуры сабекошту птушкі кармы складаюць да 70 працэнтаў. Для гэтага — павялічыць плошчу ворных зямель да 30 тысяч гектараў, звярнуць увагу на прадуктыўнасць раллі. Яшчэ адзін важны аспект — усю сельгасвытворчасць вы замкнулі на сабе. Трэба стварацьфіліялы, адкрываючы разліковыя рахункі для аператыўнага вырашэння вытворчых пытанняў.

Сяргей Старавойтаў прызначаны генеральным дырэктарам ААТ «Віцебскаблаўтатранс». Да прызначэння ён без малога два гады адпрацаваў намеснікам генеральнага дырэктара ААТ «Нафтан». Аўтамабільную гаспадарку вывучаў яшчэ ў студэнцкія гады (скончыў Магілёўскі машынабудаўнічы інстытут), мае яшчэ дзве вышэйшыя адукацыі.

Старшыня Віцебскага аблвыканкама Мікалай Шарстнёў паставіў перад новым кіраўніком вялікай транспартнай структуры сур'ёзныя задачы, зыходзячы з рэалій сённяшняга дня. Страты Віцебскаблаўтатрансу з году ў год растуць, грузаперавозкі, якія здольныя прыносіць прыбытак, падаюць, іх удзельная вага ў сукупнасці паслуг скарацўіся да 35 адсоткаў. Гэта недапушчальна.

— Вас выцясняюць прыватнікі, — сказаў Мікалай Шарстнёў. — У рынкавых умовах выжывае той, хто мацней. З наступнага года датацый з абласнога бюджэту транспартнікі не атрымаюць. Вучыцеся зарабляць грошы і марнаваць столькі, колькі зарабляеце. Аптымізуйце выдаткі. А для гэтага мэтазгодна стварыць адзіную транспартную сістэму, вылучыць прыярытэтныя прыбытковыя кірункі.

Сяргею Старавойтаву вызначаны месячны тэрмін для таго, каб выканаць усе неабходныя разлікі па вываду прадпрыемства на бясстратную працу.

Дырэктарам УП ЖКГ Шумілінскага раёна прызначаны галоўны інжынер гэтага прадпрыемства Аляксей Догель. У свой час Шумілінскага ЖКГ было лідэрам у галіны па пераходзе на мясцовыя віды паліва.

— Які вынік? — пацікавіўся кіраўнік вобласці.

Аказалася, выдаткі на атрыманне дранкі прывялі да росту сабекошту паліва. Як іх знізіць і выйсці на акупляльнасць камунальных паслуг — вырашаць новаму дырэктару. Мікалай Шарстнёў падкрэсліў, што кожны кіраўнік павінен глядзець у корань праблемы, каб сыходзіць ад неабгрунтаваных выдаткаў, забяспечваючы эфектыўнае вытворчасць.

Новы кіраўнік і ў Віцебскага філіяла Беларускай дзяржаўнай акадэміі сувязі — Сяргей Шыбека. Уперспектыве гэтаўстанова плануе ўзмацніць падрыхтоўку спецыялістаў па камунікацыйных IT-тэхналогіях, у тым ліку і для паштовай сувязі.

Генеральным дырэктарам Віцебскага племпрадпрыемства прызначаны вядучы заатэхнік аналагічнага прадпрыемства з Брэста, дзе падобная праца наладжана больш паспяхова, —

*(працяг на стар. 2)*

КАДРАВАЕ ПЫТАННЕ

*(пачатак на стар. №1)* Юры Зыковіч. Старшыня аблвыканкама даручыў маладому кіраўніку грунтоўна вывучыць сітуацыю з племянной справай на Віцебшчыне, дзе склаліся асаблівыя ўмовы. Пры гэтым неабходна прымаць рашэнні, раячыся з вопытнымі спецыялістамі-практыкамі.

Стабільна працуе філіял «Палудзеткі» ААТ «Малако» г.Віцебска. Яго дырэктар Анатоль Лісоўскі нарошчвае аб'ёмы вытворчасці. Гаспадарка развіваецца — павялічылі плошчы сельгасугоддзяў, іх важна пісьменна структураваць. Працягнуць павялічваць і пагалоўе кароў.

— Працэсам трэба кіраваць, трымаць яго пад кантролем, каб усе патрабаванні былі рэалізаваны на справе, — кажа Мікалай Шарстнёў, звяртаючыся ўжо да генеральнага дырэктара Віцебскага канцэрна «Мяса-малочныя прадукты» Віктару Славецкому.

Шмат паспеў зрабіць за год кіраўніцтва і дырэктар Аршанскага мясакансервавага камбіната Мікалай Шабуня. Па сутнасці — падняў прадпрыемства з каленяў. Ідзе праца над пашырэннем асартыменту выпускаемай прадукцыі і пераарыентацыяй рынкаў збыту, асвойваюць новыя віды вытворчасці з мэтай атрымання эканамічнай выгады. Губернатар патрабуе звярнуць увагу ў першую чаргу на дазагрузку магутнасцяў камбіната, выпуск дзіцячых мясных кансерваў. Пакуль цэх дзіцячага харчавання загружаны ўсяго на 28 адсоткаў, а гэта ж — лакаматыў прадпрыемства! Неабходна працаваць над скарачэннем выдаткаў, аптымізаваць колькасць персаналу, усе сілы кінуць на павелічэнне аб'ёмаў вытворчасці і продажаў.

Падводзячы вынікі кадравага дня, Мікалай Мікалаевіч адзначыў: кожны кіраўнік на сумоўі атрымлівае канкрэтныя даручэнні, якія ў канчатковым рахунку разлічаныя на павышэнне запасу трываласці для эканомікі прадпрыемства.

**Паводле: www.vitebsk-region.gov.by**

ТАКІ БУМ

# ДЛЯ 20 РАЁНАЎ ПАТРЭБНЫ СЛУЖБОВЫЯ АЎТО

**Як заўважыла Еўрарадыё, апошнія месяцы сярод райвыканкамаў адбываецца бум на закупку аўтамабіляў. Больш за 20 тэндараў, у большасці гэта Geely (Камянецкі, Іванаўскі, Крупскі, Брагінскі, Сенненскі, Дубровенскі, Свіслацкі райвыканкамы), якія зараз лічацца машынамі «беларускай» вытворчасці. Навошта раённаму начальству новыя машыны? І што здарылася з іх старымі аўтамабілямі? Няўжо на працу зараз пехам?**

Іванаўскі райвыканкам набывае Geely Emgrand X7, таму што іх стары аўтамабіль ужо развальваецца на часткі, а наперадзе ўборачная: "Цяпер трэба ездзіць па палях, вазіць аграномаў, спецыялістаў, заатэхнікаў, ды і начальства, — распавядае Еўрарадыё адказная за закупкі Жанна Грынь. — Да гэтага ў нас быў "Ховер" (пазадарожнік кітайскай вытворчасці Hover H3), які нам перадалі ў гаспадарку. Але ён зламаўся і па цане атрымлівалася, што адрамантаваць яго не танней, чым купіць новы аўтамабіль".

Галоўны бухгалтар Іванаўскага райвыканкама Тацццяна Васільеўна пра закупку новых аўтамабіляў: "Гэта ўсё канфідэнцыйная інфармацыя, на ўсё ёсць дакументы. Грашыма бюджэтнымі мы не раскідваемся, у нас іх няма". Тым часам інфармацыя з сайта дзяржзакупакгаворыцьабтым, што Іванаўскі райвыканкам толькі ў 2017 годзе набыў дзве машыны Geely сукупна за 70 тысяч рублёў, а дагэтуль праводзіў тэндары на закупку аўтамабіляў у 2013 і 2014 гадах. Бюджэтнымі грашыма тут не раскідваюцца.

Ельскі райвыканкам для ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання вырашыў набыць легкавы аўтамабіль за 34 тысячы рублёў. Чым выкліканая такая патрэба, распавядае кіраўніца справамі Валянціна Аўраменка: "Папярэдні аўтамабіль ужо не ездзіць. Тэрмін яго эксплуатацыі выйшаў даўным-даўно. Усё, што мы закупляем, — гэта патрэба райвыканкама і раённага савета дэпутатаў. У нас на тое ёсць грошы. І мы ўсё робім строга па ўказе". Ельскі райвыканкам праводзіў тэндары на закупку аўтамабіляў у 2013 і 2014 годзе. А таксама знакаміты тым, што ў 2012 годзе паспрабаваў са скандалам набыць "Туарэг" для патрэб райвыканкама за 73 тысячы долараў.

Самы танны аўтамабіль набывае Ашмянскі райвыканкам, там нават з маркай не вызначыліся, ведаюць толькі цану — 19 тысяч рублёў.

"Знос нашага старога аўтамабіля — вось асноўная прычына закупкі новага,— дакладвае прадстаўнік райвыканкама Марына Міхневіч. — У нас быў Мэрсэдэс-бэнц, але ён перавысіў адведзены ліміт у восем гадоў і ўжо быў непадлеглы рамонту, пайшоў на спісанне".

Чачэрскі райвыканкам набывае адразу два аўтамабілі (у суме за 56 тысяч рублёў): "Справа ў тым, што нашы аўтамабілі вычарпалі ліміт амартызацыі на сто адсоткаў,— тлумачыць галоўны спецыяліст сектара бухгалтарскага ўліку і справаздачы Алена Гінзбург. — Аўтамабілі, якія мы замянілі, былі 2001 года выпуску. Гэта быў мэрсэдэс, ён вельмі дарагі ў абслугоўванні. Рамонт быў немэтазгодны, атрымліваліся вялікія выдаткі і прасцей было ўжо купіць новыя. Таму з дазволу аблвыканкама мы набылі два аўтамабілі. А стары мэрсэдэс… передалі бюджэтнай арганізацыі".

У 2014 годзе Чачэрскі райвыканкам сапраўды выстаўляў тэндэр на рамонт свайго мэрсэдэса. Рамонт каштаваў амаль што 7 тысяч долараў! Падобна на тое, што яны ўсё ж вырашылі ад яго пазбавіцца.

У выніку ўсе тэндэры выходзяць на суму каля 800 тысяч рублёў. Амаль што паўмільёна долараў на новыя аўтамабілі! І усё гэта ў межах закона.

**Еўрарадыё**

ЖЫВАЯ ПРЫРОДА

# ВПЕРВЫЕ УВИДЕЛИ БЕЛКУ-ЛЕТЯГУ

**В лесу на территории Городокского района члены Брестского областного отделения ОО «Ахова Птушак Бацькаўшчыны» обнаружили белку-летягу, которая занесена в Красную книгу Беларуси. По словам специалистов, с момента последнего наблюдения этого вида в нашей стране прошло около 20 лет.**

Нынешняя экспедиция орнитологов была посвящена поиску краснокнижных видов животных и растений. Белку-летягу специалисты найти не рассчитывали, так как в прошлом году поиски результатов не дали.

— Мы просто время неправильное выбрали. Мы поехали, когда поднялась трава, а методика поиска предусматривает осмотр деревьев, на которых могла быть летяга. Когда она сидит на деревьях она оставляет характерный помет. Сейчас этот помет легко можно найти.

Один из участников экспедиции Денис Китель во время работы осматривал трухлявые пни.

— На верхушках этих пней, бывает, гнездятся длиннохвостые неясыти. Я простукивал пни и из одного из них выглянула летяга. Дальше мы стали обращать внимание на помет и за несколько дней в Городокском и Витебском районах нашли более 30 мест обитания летяги. Это не то, чтобы какая-то сенсация. Просто никто не занимался никогда выявлением и мониторингом.

Белку-летягу называют едва ли не самым милым зверьком. Как отметил Денис Китель, в живую она напоминает «летающую наволочку, натянутую на ствол».

— Я когда ее увидел и понял, что это белка-летяга сразу полез за фотоаппаратом. А у меня как раз батарея села. Я ее достал, тряс в руках и все-таки смог один кадр сделать. А потом пришел мой коллега Андрей Абрамчук, который тоже сделал пару фотографий.

Как указано в Красной книге, белка-летяга в XIX веке в Беларуси встречалась почти повсеместно. В начале XX века их видели в окрестностях Борисова и верхнего бассейна реки Березина, а в 1920-е гг. — только в Поставском, Шумилинском, Полоцком и Витебском районах Витебской области и на севере Могилевской области.

В 1960-е гг. встречалась в северо-восточных районах Витебской области на территории Городокского, Витебского, Лиозненского, Оршанского, Полоцкого и Россонского районов. Как отмечается в Красной книге, для Беларуси белка-летяга очень редкий вид.

Сейчас орнитологи планируют проехать по северу Беларуси и посмотреть другие места, где может обитать белка-летяга.

— Мы планируем проехаться по северу Беларуси, посмотреть другие места, где она может встречаться. Может быть она не такая уж и редкая.

Член брестского областного отделения «АПБ» Андрей Абрамчук отметил, что на данный момент информацию о наблюдении белки-летяги планируется передать в соответствующие инстанции.

«Белка-летяга является видом из Бернской конвенции, который охраняется в Изумрудной сети. Изумрудная сеть — это сеть природоохранных территорий, которая создается по всей Европе для сохранения редких видов и биотопов. В Беларуси на сегодня утверждены 155 объектов изумрудной сети, однако ни одного для охраны летяги. Так как последний раз летяга была здесь замечена наша цель была найти эту территорию, чтобы включить ее в изумрудную сеть для охраны этого вида», — добавил Андрей Абрамчук.

**http://www.realbrest.by**

ЛЕТНІ АДПАЧЫНАК

# ЛАГЕРЬ ДЕЙСТВУЕТ, А ОТКРЫТИЕ ПОТОМ

**Новый стационарный загородный оздоровительный детский лагерь открылся в деревне Кабище Городокского района, сообщил начальник отдела образования, спорта и туризма местного райисполкома Владимир Новиченок.**

Лагерь «Орион» районного Центра детей и молодежи создали на базе бывшей школы, здание которой полностью отремонтировали и переоборудовали за счет средств, сэкономленных в результате оптимизации в системе образования.

«Орион» расположен в живописном месте в сосновом бору недалеко от реки Кабищанки. Одновременно в лагере могут оздоровиться 105 детей в возрасте 6–18 лет. В их распоряжении спальные комнаты, комнаты отдыха — все с новой мебелью. Есть столовая и пищеблок — у детей 5-разовое питание. На территории бесплатный Wi-Fi. И это первый оздоровительный лагерь в области с собственным веревочным парком, — его открытие запланировано 21 июля.

«С 12 июля уже работает первая профильная смена — художественно-эстетическая. К нам приехали 103 мальчика и девочки не только из Витебской области, но даже несколько ребят из Москвы. Смена продлится по 29 июля. С 2 по 19 августа будет работать вторая — спортивно-туристическая. Все путевки разобраны», — отметила директор Центра детей и молодежи Галина Симурова.

С детьми работают 16 воспитателей, педагог-организатор, культорганизатор, инструктор-методист по физвоспитанию, медработники, повара и другие.

Досуг детей насыщенный. Они ездят в Городок, где на базе СШ № 2 оборудован один из лучших скалодромов в стране. Еще ребят ждет игра в лазертаг на двух полигонах, занятия в объединениях по интересам и целый ряд спортивных приключений, шоу-программы, дискотеки, экскурсии, конкурсы и квесты.

**Материал сайта news.tut.by**

БЕЛАРУСЫ СВЕТУ

# ДЫЯСПАРА: БАЛАСТ ЦІ РЭЗЕРВ НАЦЫІ?

**Афіцыйны Мінск не можа і не зможа выбудаваць адносіны з дыяспарай, пакуль не вызначыцца, што ён сам такое: самастойная незалежная дзяржава ці «малодшая сястра Расіі». Калі першае — шанец ёсць. Калі другое — дык дыяспара і не патрэбная…**

Усе краіны свету, за выключэннем хіба Беларусі, вельмі шмат увагі надаюць сваім суайчыннікам за мяжой. Бо дыяспара — гэта рэзерв нацыі. Ва ўсіх сэнсах: эканамічным, інтэлектуальным, палітычным і іншых.

Дыяспара можа выступаць лабістам інтарэсаў метраполіі і шмат чым яшчэ. Нездарма адна наша суседка прыдумала «карту паляка», а другая ўсур'ёз задумваецца пра тое, каб раздаваць свае пашпарты ўсім, хто нарадзіўся ці з'яўляецца нашчадкам жыхароў былога СССР. Пра інтэлектуальны складнік і казаць не варта. Усе мы ў пачатку 1990-х са здзіўленнем адкрывалі для сябе літаратуру эміграцыі, а цяпер за мяжой працуе найбольш актыўная і дасведчаная частка Беларусі: людзі, лёгкія на пад'ём, з веданнем моваў і навучаныя ў сусветна вядомых універсітэтах.

Не трэба думаць, што дыяспара — нейкая «купка адшчапенцаў», якія змянілі Радзіму на прыгожае жыццё. Па-першае, ім тое «прыгожае жыццё» каштавала немалых высілкаў. Па-другое, беларусаў за мяжой не так ужо і мала. Ды што там казаць: у мяне самога сяброў у Беларусі значна менш, чым сяброў за яе межамі. Усе разбегліся пад ціскам абставінаў — хто на Захад, хто на Усход, хто на Поўдзень, ва Украіну, куды, нават нягледзячы на вайну, апошнім часам ідзе проста паломніцтва беларусаў. Іншым разам міжволі нават узнікае пытанне: «А што я тут раблю?».

І вось парадокс: большасць з гэтых людзей у жыцці арганізаванай дыяспары ўдзелу не бярэ. Хаця, здавалася б, мусілі — тут, у Беларусі, яны мелі актыўную грамадзянскую пазіцыю. «Зубр», «Хартыя'97», «Еўрапейская Беларусь», сябры БНФ, АГП і іншых партыйных груповак… За межамі краіны яны сваю пазіцыю нібыта згубілі і заняліся асабістымі, прыватнымі справамі. Мабыць, за куфлем піва ці чаго мацнейшага згадваюць, як раскідвалі ўлёткі з заклікамі на мітынгі, вывешвалі на вуліцах бел-чырвона-белыя сцягі ці малявалі графіці «Жыве Беларусь!»: «Эх, быў час, была эпоха!».

Я цалкам разумею, чаму так адбываецца. Эмігранты «старой хвалі», тых, каго мы цяпер вывучаем у падручніках па фізіцы, касманаўтыцы, геаграфіі і літаратуры, нават на чужыне адчуваюць сябе часткаю Беларусі. Так, яны таксама вымушаныя былі эміграваць — але ў іх душах заставалася тое, пра што пафасна кажуць «патрыятызм». Яны былі выхаваныя такім чынам: нават у часы СССР іх радзімай усё роўна была Беларусь.

«Новыя хвалі эміграцыі» таго патрыятызму не маюць. Дый адкуль? Тыя, хто з'ехаў падчас развалу СССР, не ўсведамлялі Беларусь асобнай краінай. Тыя, хто з'ехаў пазней, альбо ехалі па лепшую долю, альбо былі за мяжу «палітычна выціснутыя».

Апошнія, прайшоўшы праз турмы і спецпрыёмнікі, выдатна ўсведамляюць розніцу паміж Беларуссю і ўладай краіны. Яны лічаць агідным стасавацца, напрыклад, з прадстаўнікамі беларускіх амбасадаў, трымаючы іх за «памагатых рэжыму» (што праўда). Таго самага рэжыму, які як найменш падазраецца ў знішчэнні іх сяброў (так, мы не забыліся пра Захаранку, Красоўскага, Ганчара, Завадскага, загадкавыя смерці Карпенкі і Бябеніна). Гэтыя людзі ствараюць праекты альтэрнатыўнага развіцця Беларусі і стаяць у пікетах ля беларускіх дыппрадстаўніцтваў і будынкаў міжнародных арганізацый, калі туды прыязджаюць дэлегацыі афіцыйнага Мінска. Але каб яны аб'ядноўваліся ў моцныя суполкі, не чуваць.

Іншая і большая частка — тыя, хто з'ехаў у пошуках заможнага жыцця — проста




не можа ўсвядоміць сябе часткаю Беларусі. Дый як яны могуць гэта зрабіць? Для гэтага — іх усведамлення — патрэбныя высілкі, найперш дзяржавы. А дзяржава пра гэта мала клапацілася, калі не казаць, што не клапацілася зусім. Беларусаў абзывалі ці то «часткаю рускага народа», ці то «рускімі са знакам якасці», ці то яшчэ нейкай трасцай — абы не беларусамі. Стваралі, ды не стварылі нейкую асаблівую «беларускую ідэалогію», у той жа час падкрэсліваючы «непарыўную сувязь беларусаў і рускіх»… Зразумела, «у цені старэйшага брата» немагчымая ні ўласная ідэалогія, ні патрыятызм.

Дзяржава страціла амаль чвэрць стагоддзя на незразумелыя гульні з самаідэнтыфікацыяй і толькі-толькі пачынае разумець каштоўнасць незалежнасці. Толькі цяпер, квола, пакрысе, робяцца першыя нават не крокі, а погляды ў бок менавіта беларускай гісторыі: Полацкага княства, ВКЛ, БНР — у спробе намацаць тую глебу для беларускага патрыятызму і беларускай нацыянальнай ідэі. І таму страціла вялікую частку эмігрантаў, для якіх «беларус» цяпер — не каштоўнасць, а канстатацыя нацыянальнасці. І нічога больш.

Афіцыйны Мінск не можа і не зможа выбудаваць адносіны з дыяспарай, пакуль не вызначыцца, што ён сам такое: самастойная незалежная дзяржава ці «малодшая сястра Расіі». Калі першае — шанец ёсць. Калі другое — дык дыяспара і не патрэбная…

**Сяргей Пульша**
**"Новы Час"**

ВАКОЛ АЭС

# НІХТО НЕ РАСТЛУМАЧЫЎ ЛУКАШЭНКУ

**Па меры таго як будаўніцтва атамнай станцыі пераходзіць ў стадыю ўсталявання рэактару, колькасць праблемаў, якія паўстаюць перад краінай, будзе толькі нарастаць. І самая галоўная зь іх: навошта?**

У выказваньнях Аляксандра Лукашэнкі пра АЭС на сустрэчы з генэральным дырэктарам расейскай карпарацыі «Росатом» Аляксеем Ліхачовым 24 ліпеня відаць спроба адказаць на гэтае пытаньне. Увогуле ў грандыёзным і вельмі сумнеўным праекце адлюстраваліся ўсе заганы беларускай сацыяльнай мадэлі і асаблівасьці сьветапогляду яе архітэктара. Вось Лукашэнка кажа: «Нам няпроста далося рашэньне будаваць атамную электрастанцыю пасьля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Фобіі былі вельмі моцныя, але нам удалося пераканаць насельніцтва, што за гэтым будучыня».

Насамрэч гэта ня так. Ніхто нікога не зьбіраўся пераконваць. Аўтарытарны лідэр мае такую раскошу, як неабмежаваную свабоду рук. Ня трэба нікому нічога тлумачыць, ні з кім спрачацца, ні перад кім ладзіць справаздачу. Ніякай сур'ёзнай размовы з грамадзтвам на гэтую тэму не было. Не лічыць жа за сапраўдны аргумант такое тлумачэньне, што, маўляў, пабудаваўшы АЭС, мы зьменшым залежнасьць ад Расеі. Бо насамрэч, у дадатак да газавай, нафтавай залежнасьці ад РФ, зьявіцца яшчэ фінансавая, атамная залежнасьць. І, дарэчы, сацыялягічныя апытаньні паказваюць, што беларускае грамадзтва ў гэтым пытаньні падзялілася прыкладна папалам.

З самага пачатку было зразумела, што будаўніцтва АЭС — гэта не эканамічны, а палітычны праект, пытаньне прэстыжу, іміджу. Лукашэнка хоча ўвайсьці ў гісторыю як лідэр, пры якім Беларусь стала ядзернай, касьмічнай дзяржавай, краінай ІТ-тэхналёгіяў.

Вось падчас сустрэчы з кіраўніком расейскай карпарацыі ён чарговы раз тлумачыць, чаму прыняў рашэньне будаваць АЭС: «Гэта найвышэйшыя тэхналёгіі. У шэраг з касьмічнымі, ІТ-тэхналёгіямі, лічбавай эканомікай — за імі будучыня — я стаўлю і будаўніцтва атамнай станцыі».

Уся праблема ў тым, што ніхто з блізкага атачэньня Аляксандра Рыгоравіча ня змог ці не адважыўся растлумачыць яму простую рэч: АЭС — гэта тэхналёгія 1950-х гадоў, індустрыяльнай эпохі. Акурат у пэрыяд сацыялізацыі ягонай асобы, у час яго дзяцінства і маладосьці на інфармацыйным экране дамінавалі аповеды пра мірны атам. Лукашэнка гэта добра засвоіў. Але ён прапусьціў, што з таго часу ў сьвеце адбылося ўжо некалькі тэхналягічных рэвалюцыяў. І сёньня АЭС — гэта ніякая не высокая тэхналёгія, а зусім наадварот. І не за ёю будучыня.

Але атамнаму лёбі лёгка ўдалося пераканаць кіраўніка дзяржавы. Бо яго прадстаўнікі мелі доступ да першай асобы. І цяпер краіна становіцца закладніцай гэтага рашэньня.

Упэрсаналісцкай палітычнай сыстэме, у рэжыме асабістай улады праблема доступу да цела набывае вялізнае значэньне. Доўгі час уяўленьне Лукашэнкі аб лічбавай эканоміцы зводзілася да простай як аглобля формулы: інтэрнэт — гэта «помыйка». Але вось Валерыю Цапкалу, які «меў доступ», удалося яго пераканаць, што Парк высокіх тэхналёгіяў можа стаць драйвэрам беларускай эканомікі. І мы маем даволі рэдкую для Беларусі гісторыю посьпеху.

Што да АЭС, то ўжо цяпер, задоўга да завяршэньня будаўніцтва станцыі, узьнікла вялікая праблема: што рабіць зь лішкамі электраэнэргіі, якія непазьбежна зьявяцца. Паводле ацэнак Яраслава Раманчука, сёньня энэргасыстэма Беларусі выпрацоўвае звыш 9 тысяч мэгаватаў (МВт) электраэнэргіі пры сярэдняй патрэбнасьці эканомікі ў 5200 МВт. АЭС дадасьць яшчэ 2400 МВт. І што зь ёю рабіць? Паміраючы, прамысловасьць будзе патрабаваць усё менш электраэнэргіі. Літва і Польшча ўжо заявілі, што ня будуць яе імпартаваць.

Таму Лукашэнка ўжо некалькі разоў ставіў перад урадам задачу: маўляў, шукайце рашэньне, што рабіць зь лішняй электраэнэргіяй. Гэта і ёсьць эканоміка па-беларуску. Спачатку рэалізуецца вялізны праект, а потым у рэжыме надзвычайнасьці вырашаецца пытаньне, што рабіць з выраблёнай прадукцыяй. Так было з цэмэнтнымі заводамі, з дрэваапрацоўчымі прадпрыемствамі. Вось цяпер рыхтуецца запусьціць пабудаваны кітайцамі Сьветлагорскі завод беленай цэлюлёзы. Але каму зьбіраюцца прадаваць паперу ў эпоху, калі сьвет пераходзіць да лічбавых тэхналёгіяў? Дарэчы, аналягічныя заводы Беларусі працуюць з загрузкай 15–20%.

Вось так і з АЭС. Каб яе будаўніцтва мела хоць нейкі эканамічны сэнс, трэба ствараць вялізную інфраструктуру, перабудоўваць цэлыя галіны эканомікі, напрыклад, пераходзіць на электрамабілі. Хіба зноў за расейскія крэдыты.

Але галоўная праблема Беларусі не ўнедахопе грошай, а ў абсалютна неэфэктыўным іх выкарыстаньні. Як казаў з гэтай нагоды эканаміст Вадзім Іосуб, урад Беларусі паводзіць сябе як гулец у казыно. Чым больш грошай ён атрымлівае, тым бяднейшы робіцца.

Меркаваньні, выказаныя ў блогах, перадаюць погляды саміх аўтараў і не абавязкова адлюстроўваюць пазыцыю рэдакцыі.

**Валер Карбалевіч**

ВАКОЛ БАЗАРА

# ИСПОЛЬЗОВАЛИ И ВЫБРОСИЛИ

**Многие годы фестиваль "Славянский базар" был тесно связан с именем одного из создателей и первого директора Родиона Басса. Но вот уже несколько лет этой фамилии нет в афише фестиваля, а по Витебску ходят самые разные слухи о судьбе первого директора.**

Заявление об увольнении с поста директора фестиваля "Славянский базар" Родион Басс написал в 2013 году — тогда из-за осложнений сахарного диабета ему ампутировали ногу. С тех пор об основателе и руководителе "Славянского базара" ничего не известно. Что сейчас происходит с Родионом Бассом и где он находится?

По Витебску ходят самые разные слухи: одни утверждают, что первого директора фестиваля давно нет в живых, другие утверждают, что тяжело болеет, третьи — что его, больного, бросила жена.

И только немногие близкие люди знают, что на самом деле происходит с человеком, который стал одним из организаторов в городе на Двине международного фестиваля и чье имя некогда было одним из самых известных в Витебске.

**От Дома культуры к международному фесту**

Родион Басс сделал многое для Витебска. В 1976 году, едва он начал работать в городском Доме культуры, практически сразу стал организовывать различные фестивали и конкурсы.

С 77-го по 82-й годы в Витебске проводился конкурс эстрадной песни и музыки "Красная гвоздика", в 78-м году прошел конкурс бального танца "Весенний бал", в 1979 и 1980 годах состоялся фестиваль инструментальной музыки "Витебская осень", который затем перерос в фестиваль джазовой музыки.

В то время джаз еще не был до конца разрешен, и Витебск стал третьим союзным городом после Ленинграда и Ярославля, где проводили подобные фесты. Еще были конкурсы красоты, парады и многое другое.

Но есть у Басса два ключевых мероприятия, благодаря которым он и стал знаменит. Это Всесоюзный фестиваль польской песни, который проводился с 1988 по 1990 годы и специально для которого в Витебске построили Летний амфитеатр. И, естественно, "Славянский базар", который впервые прошел в 1992 году в этом Летнем амфитеатре.

Как бы ни относились к "Базару", все сходятся во мнении, что благодаря этому празднику о Витебске знают во всем мире. За двадцать два года в нем приняли участие представители 63 стран и посетили более 800 тысяч человек. На фестивале представлены все виды современного искусства, и сейчас он проходит на многих сценических площадках города.

Когда в 81-м году Басс стал исполняющим обязанности директора Дома культуры, в его распоряжении было "одно старое здание и девять штатных единиц". А после себя он оставил 11 филиалов и более четырехсот сотрудников, работающих в этой сфере.

Басс — выдающаяся личность, которая, казалось, настолько вписала себя в культурную жизнь города, что не исчезнет из нее никогда!

**"Отработанный материал"**

Но так только казалось. В 2013 году Родион Басс в одночасье лишился ноги, должности и пропал со всех информационных радаров.

Более того, за последние четыре года о нем практически не вспоминали, будто и не было человека, создавшего в обычном областном центре крупный международный фестиваль.

Между тем, Родион Басс месяца четыре назад пережил ампутацию второй ноги, ослеп и, по словам близких, его состояние постоянно ухудшается. Вторая ампутация подкосила его окончательно.

Бывшего директора фестиваля выписали из больницы, сообщив, что сделали все, что могли, и теперь ему нужен домашний уход. Складывается впечатление, что от него просто избавились.

Слухи о том, что жена его бросила, уехав в Россию, близкие к семье люди опровергают. Супруга ухаживает за ним вместе с матерью и детьми. Вся семья заботится о больном и поддерживает его.

Кто еще помогает заслуженному деятелю культуры Республики Беларусь и основателю "Славянского базара"? Витебский еврейский центр, который недавно предоставил ему сиделку. И все!

По словам знакомых Родиона Басса, за все время после увольнения его навещали лишь рядовые работники городского Центра культуры: методисты, шоферы, секретари. Из руководства один раз в прошлом году приходил нынешний директор "Славянского базара" Александр Сидоренко, который принес пригласительный билет на фестиваль, но Басс отказался.

"Он очень тяжело пережил свой уход, ведь "Славянский базар" был жизнью для Родиона. У него таких проблем со здоровьем не было бы, если бы он следил за ним, но он все свои силы и время отдавал фестивалю. Естественно, что его обидело такое отношение к себе: просто использовали человека и выкинули", — рассказала одна из знакомых Басса.

Единственное, чем отметили заслуги основателя "Славянского базара" перед городом — это пандус для инвалидной коляски, сделанный при выходе из подъезда. Теперь у родственников возникает другая проблема — добраться до него, поскольку они живут на третьем этаже в доме без лифта.

За фестивалем его основатель не следит: во-первых, не хочет, а во-вторых, он сейчас в слишком тяжелом состоянии. Когда ему зачитали статью о критике в адрес нынешнего руководства фестиваля, которую озвучил российский музыкальный критик и журналист Сергей Соседов на пресс-конференции, больной просто расплакался.

Поскольку Родион Басс — почетный гражданин Витебска, ему присылают пригласительные билеты на различные праздничные мероприятия, но всегда почему-то на одного человека, что заставляет родственников недоумевать.

"Ведь всем известно, в каком он сейчас состоянии, он один не то, что в город, а в ванную комнату не может пройти. Понятно, что он никуда не поедет, и эти пригласительные на одного человека выглядят, как издевательства", — рассказала одна из знакомых семьи.

Но шоу продолжается — сверкает огнями праздничный "Базар", над Витебском звучит музыка. Вот только имя одного из создателей и первого директора Родиона Басса никто не вспоминает...

**по информации sputnik.by**

БЯСПЕКА РУХУ

# ДАІ НЕ РЭКАМЭНДУЕ ЧАПЛЯЦЬ ГЕОРГІЕЎСКІЯ СТУЖКІ

**У Сьветлагорску пасьля амаль месячнага перапынку зноў пачалі рэзаць колы аўтамабіляў, на якіх прымацаваныя так званыя «георгіеўскія стужкі». Чарговы інцыдэнт адбыўся ў ноч з 15 на 16 ліпеня ў мікрараёне «Маладзёжны».**

«Пашкоджанымі аўтамабілямі займаюцца супрацоўнікі крымінальнага вышуку, — кажа начальнік Сьветлагорскага аддзяленьня ДАІ Васіль Гапоненка. — „Георгіеўскія стужкі" раздавалі валянтэры падчас мінулых сьвятаў, некаторыя аўтааматары і пачапілі іх на свае аўтамабілі. Мы можам толькі рэкамэндаваць кіроўцам гэтага не рабіць. І рэкамэндуем».

Мясцовыя жыхары ў Сьветлагорску лічаць, што тут зьявіўся наступнік героя савецкай камэдыі «Сьцеражыся аўтамабіля» са сваёй адметнай спэцыялізацыяй. Той Дзетачкін краў аўтамашыны ў людзей, якія жылі на «непрацоўныя даходы», прадаваў, а выручаныя грошы пералічваў на рахункі дзіцячых дамоў.

Цяперашні «сьветлагорскі Дзетачкін», на думку грамадзкага актывіста, гісторыка Тэльмана Масьлюкова, «ваюе» не з аўтамашынамі, а з «русским миром», з сэпаратызмам ды імпэрскасьцю, сымбалем якіх стала расейская георгіеўская стужка падчас вайны на ўсходзе Ўкраіны і акупацыі Крыму.

«Некалі георгіеўская стужка, праўда, у крыху іншай колеравай гаме, асацыявалася з воінскай адвагаю, а цяпер у многіх выклікае адмоўныя эмоцыі. Гэта як свастыка: калісьці яна была графічным адлюстраваньнем сонца, а ў руках фашыстаў стала сымбалем зла і гвалту», — сказаў Свабодзе гісторык Масьлюкоў.

У чэрвені міліцыя зафіксавала у Сьветлагорску каля дзесяці выпадкаў пашкоджаньня аўтамабіляў з георгіеўскай стужкай. Невядомы зламысьнік праколваў шыны ў пакінутых каля дамоў аўто. Найбольш такіх выпадкаў зафіксавана было менавіта ў мікрараёне «Маладзёжны». На адной з машын невядомы нават паскакаў, моцна пашкодзіўшы кузаў.

Пасьля публікацыі ў мэдыя інфармацыі пра выходкі «мясцовага Дзетачкіна» машыны з георгіеўскімі стужкамі пакінулі ў спакоі. Але ненадоўга.

«Маёмасьць, безумоўна, нельга, псаваць, — перакана용 сьветлагорскі прадпрымальнік Юры Ляшэнка, які займаецца пасажырскімі аўтаперавозкамі. — Але ня трэба й правакаваць людзей на нэгатыўную рэакцыю, чапляючы георгіеўскія стужкі ды прыклейваючы партрэты Сталіна на капот або шкло. Паласатая стужка, якую памылкова называюць „георгіеўскай", неадназначна ацэньваецца ў нашым грамадзтве. У Берасьці і Магілёве ДАІ адрэагавала штрафамі на такія „ўпрыгажэньні" аўтамабіляў. І правільна. Аўтамабілі з графіці на капотах ды бакавінах наагул не павінны на тэхаглядах дапускацца да эксплюатацыі на беларускіх дарогах».

**https://www.svaboda.org**

"ЗАРОБКІ"

# УЛАДНЫ "БІЗНЕС"

**Сьледчы камітэт «зарабіў» больш за 35 мільёнаў даляраў**

Пра гэта паведамілі ў цэнтральным апараце Сьледчага камітэту Беларусі па выніках паседжаньня калегіі.

У ведамстве таксама адзначылі, што падвышаецца ўзровень апэратыўнасьці расьсьледаваньня: за першыя шэсьць месяцаў больш за палову (51,7%) крымінальных справаў скончана ў тэрмін да аднаго месяца, — падкрэсьлілі ў Сьледчым камітэце.

Днямі Свабода апублікавала статыстыку іншага ведамства — Вярхоўнага суду Беларусі. Згодна зь яго зьвесткамі, па выніках першага паўгодзьдзя сёлета больш за ўсё асуджаных якраз за злачынствы супраць уласнасьці — 8 217 чалавек. Агулам асуджаных 21 326 чалавек, апраўданых 36 чалавек.

Самы пашыраны від пакараньня — пазбаўленьне волі. У калёніі за першую палову году адбываць пакараньне адправілі 6 335 чалавек. Абмежаваньне волі прызначанае 3 915 асуджаным, зь іх так званую «хімію» атрымалі 1293 чалавекі, «хатнюю хімію» — 2 622.

Папраўчыя работы прысудзілі 902 парушальнікам, арышт — 3480, штраф — 2443, грамадзкія работы — 2412, пазбаўленьне права займаць пэўныя пасады або займацца пэўнай дзейнасьцю — 125.

Калі зыходзіць з агульнай колькасьці, доля апраўдальных прысудаў склала 0,1688%.

**"Радыё Свабода"**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru Тэл. 8-02139-5-08-52, маб. + 375(29)6723842 (V), Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 30.07.2017 у 18.10** Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў. Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.